Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłata pocztowa uiszczono ryczałtem.

# СЛОВА ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12, m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр., на 3 мес. — 4 зл., на паўгоду — 8 зл., на год — 15 зл., заграніцу ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. | Непрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 грош. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№ 7 — Вільня, Серада 24-га кастрычніка 1928 г. — Год 1

## Полярызацыя сілаў.

У сучасны мамэнт найбольшай сэнсацыяй дня ў палітычным сьвеце Польшчы зьяўляецца раскол у партыі пэпээсаў. Тое, што падгатаўлялася ўжо больш году часу, што варылася дасюль ува ўласным пэпээсаўскім катле і выходзіла наверх у форме газэтнае пены, якая дазваляла цяперашняй апазіцыі тлумачыць яе як манэўры ўсяе пэпээсаўскае партыі перад пераходам яе ў блёк санацыі, але што запраўды было глыбокім крызісам пэпээсаў—нарэшце дайшло да свайго лёгічнага канца. „Партыя Польскіх Сацыялістаў“ перастала існаваць, як адзіная партыя. Цяпер ужо існуюць афіцыяльна дзьве партыі—„П. П. С.“ і „П. П. С.—даўней рэвалюцыйная фракцыя“, ці як удачна акрэсьліла эндэцкая прэса—ППС і ББС (беспартыйны Блёк Сацыялістычны?!). Абедзьве партыі маюць свае ўласныя органы друку—„Robotnik“ і нованароджаны „Przedświt“, абедзьве будуць мець пры наступаючай сэсіі Сойму свае ўласныя асобныя клюбы, прычым сэцэсія, ужо па цяперашняму падлічэньню прэсы—будзе мець да тузіна паслоў, ня лічучы „нэйтральных“. Факт расколу стаўся і яго ня скрываюць, як варожыя пэпээсам сілы, гэтак і самі пэпээсы, выдаючы афіцыяльныя камунікаты і распускаючы, як належыць пры расколе, у абадвух органах цэлую плойму „рэвалюцыяў“ і чыстай вады дэмагогію для перацягненьня кожнай фракцыяй на свой бок масаў. Маючы неўзабаве адбыцца кангрэс партыі ў Сасноўцах ужо ня будзе займацца выясьненьнем крызісу ўнутры партыі, а стане перад адбытым фактам расколу.

Буржуазная, а найбольш санацыйная, прэса ня можа скрыць свaей радасьці з поваду дамовай сваркі ў сваіх небясьпечных конкурэнтаў, бо трэба сказаць, што ППС яшчэ і да расколу зьяўлялася істотна партыяй буржуазнай, вярней, дробна-буржуазнай, але выстаўляючы сябе партыяй сацыялістычнай—адцягала ад роднай буржуазіі нацыяналістычна настроеныя польскія работніцкія масы, на якія прэтэндавала кожная з буржуазных партыяў. Аднак, прыпомнім, што ў часе яшчэ папярэдняга Сойму, у часе яго „хваробаў“ —такія-ж расколы адбываліся ўва ўсіх іншых буржуазных партыях, пачынаючы ад эндэцыі і канчаючы энпээрамі (Нацыянальнай Работніцкай Партыяй) і Вызваленьнем. Кожная з іх перажыла ўнутраны крызіс, каб у выніку аддаць пэўную часьць сваіх сілаў санацыі. Прыпомнім, што тады якраз ППС-ы хвалілася, што „na pomalowanej łączce“ яна адна асталася цэлая і адзіная.

І запраўды малазначная групка „Партыі Працы“, якая зьявілася ядром цяперашніх бэбэхаў, абрасла да немагчымасьці „санатарамі“ самага рознага гатунку і ў гэтым моры так згубіла свой твар, што сымболем адзінкі цяпер зьяўляецца не пас. М. Косьцялковскі, а хутчэй мін. Мэйштовіч, а пас. К. сам навет з сваім „Саюзам Гарадоў і Вёсак“ мусіць лемэнтаваць над „захаваньнем дэмакратыі“. Адным словам, уся польская буржуазія то гвалтоўна, то паступова, але няўхільна групуецца каля, здавалася-б, беспартыйнай, ці то хутчэй шматпартыйнай мітычнай „адзінкі“, якая паступова-ж перабірае ад эндэцыі прадстаўніцтва польскага нацыяналізму. Цяпер ніхто ня можа паручыцца, што бэбэхі ня могуць зрабіць паступку, які ў свой час дапусьціла эндэцыя ў адносінах да першага выбранага прэзыдэнта Нарутовіча. Яны набіраюць шовіністычнага імпату.

Факт утварэньня ББС-аў мы ўважаем далейшым шагам усё таго-ж аднаго працэсу консалідацыі буржуазных сілаў. Можам думаць, што неўзабаве будзем сьведкамі „фэрмэнтаў“ і ў іншых угадовых і „tęskniących pozytywnej pracy“ партыях—Вызваленьні і Сялянскай Партыі (Stronnictwo Chłopskie). Працэс ідзе з неўмалімай пасьлядоўнасьцяй, усё далей да сваей канчальнай мэты. Каб быць яшчэ паўнейшымі, дадамо, што гэты працэс зачапіў, ня толькі польскае буржуазнае грамадзянства, а перакінуўся і ў бок г. зв. нацыянальных меншасьцяў, ствараючы таксама „фэрмэнты“, асабліва адчуваныя сярод украінцаў і ў самы апошні час і беларусаў, дзе бачым выразнае ўтварэньне „санацыйнага“ кірунку.

Цяпер мы хочам зьвярнуць увагу на другі бок крызісу пэпээсаў, на выданьне брашуры Манькоўскага, які б'е па партыі з левага боку. Невядома, як глыбокі гэты працэс, але ён так выразны, што не патрабуе вялікіх тлумачэньняў. Але левыя „фэрмэнты“ найбольш адчуваюцца не ў вярхох партыі, а на нізох, у масе. Мы тут бачым таксама паступовы і няўхільны зварот улева. Прыпомнім, што пры адбытых выбарах да Парляманту амаль усе найбольш прамысловыя цэнтры, як Варшава, Лодзь, Сілёзія—далі ў выніку выбараў большасьць галасоў камуністам. Няма ніякага сумляваньня, што адбываная цяпер забастоўка ў Лодзі таксама перасунула работніцкія масы значна ўлева. Эндэцкая прэса проста сцьвярджае, што які-бы ня быў канец забастоўкі—на ім аднолькава выграюць камуністы.

Ня можам прайсьці маўчаньнем таго факту, што, ня гледзячы на „санацыю“ беларускіх вярхоў, ня гледзячы на адсутнасьць афіцыяльнай левай беларускай партыі, ня гледзячы на ўсе „лекі“ і стараньні афіцыяльнай „санацыі“—ідзе адначасна і то не ў малым тэмпе ўсё большая радыкалізацыя беларускіх працоўных гушчаў, якія сваім вонкавым штандарам маюць Беларускі Сялянска-Работніцкі Пасольскі Клюб. Для ўсіх відавочна, што, ня гледзячы на недазвол мітынгаў гэтаму Клюбу пры адначасным фаворы сельсаюзьнікаў, хадэкаў, а асабліва нованароджанага „санатара“ Янкі Станкевіча—ўсе гэтыя паслы ня маюць амаль ні малейшага пасьпеху і ўсе іх партыі і органы проста на вочах заміраюць. Наадварот, Б. С.-Р. Клюб і радыкальная прэса, ня гледзячы на „фэрмэнты“ наверху — *групуе каля сябе, можна сказаць без памылак—увесь беларускі працоўны народ і чуецца з пагляду еднасьці з народам яшчэ можа сільней, як чуўся ў свой час Клюб б. Грамады.* Беларускі Сялянска-Работн. Клюб увасабляе ў сабе ўвесь беларускі працоўны народ.

Зьявішча палявеньня масаў можна бачыць цяпер таксама і на ўкраінскім груньце, што выяўляецца ў пасьпехах Сель-Робу — Лявіцы і паступовым заміраньні яго правай часткі.

Адным словам, калі бачым, з аднаго боку, консолідацыю буржуазных сілаў, згрупаваньне іх каля аднаго полюсу, то, з другога боку, бачым групаваньне работніцка-сялянскіх масаў каля левых груміровак. На нашых вачох адбываецца працэс, які можна назваць полярызацыяй сілаў. З аднаго боку—„беспартыйны“ буржуазны блёк, а з другога — ўсё растучы блёк сялянска-работніцкі. Сярэдзіна штораз болей губляе грунт пад нагамі, яскравым доказам чаго зьяўляецца апошні раскол пэпээсаў.

## Разрыў (?) польска-нямецкіх гаспадарчых перагавораў.

Тое, што можна было прадбачыць здарылася: польска-нямецкія гаспадарчыя перагаворы ізноў перарваліся.

У апошні час нямецкі ўрад зьвярнуў асаблівую ўвагу на справу перагавораў з Польшчай. 10—11 адбыліся нарады габінэту ў гэтай справе, на якія былі заклікаваны — нямецкі пасол у Варшаве Раўшэр і старшыня нямецкай дэлегацыі Гэрмэс. Быццам Гэрмэс даводзіў і рашуча радзіў ураду перарваць на неабмяжаваны час перагаворы, якія зьяўляюцца безнадзейнымі з прычыны няўступлівасьці Польшчы. Раўшэр, быццам, наадварот—прапанаваў паразуменьне. У выніку нарады Гэрмэс паехаў у Варшаву, перагаворы расцачаліся ізноў, але на першым-жа абмене паглядаў высьветліліся такія розьніцы, што Гэрмэс раптам ізноў выехаў у Бэрлін... Уражаньне ад гэтага выезду было вялізарнае, дый ня толькі ў Польшчы і ў Нямеччыне, але і ў іншых дзяржавах, заінтэрэсаваных так ці інакш у польска-нямецкіх адносінах.

Выезд Гэрмэса азначаў амаль не разрыў перагавораў. Абодва ўрады — нямецкі і польскі — зараз-жа выдалі афіцыяльныя камунікаты, высьвятляючы стан перагавораў і вінавацячы адзін аднаго ў іх перарыве.

Польскае Агенства выдала — пасьля нямецкага — камунікат, палямізуючы з закідамі нямецкага ўраду, ускладаючага віну на польскі. З свайго боку польскі камунікат высьвятляе, што — на прапазіцыю польскай дэлегацыі аб ўсім вольным тавара-абмене паміж абодвума краямі—нямецкая дэлегацыя адказала адмовай, заявіўшы, што на вольны (неабмяжаваны ані колькасна ані якасна) увоз польскага вугалля і ўсялякай скаціны (жывой і бітай) нямецкі ўрад не згаджаецца, а будзе надалей для ўсялякага роду гэтых прадуктаў устанаўліваць згары азначаныя і абмяжаваныя „кантынгенты“ (колькасьці). Такі адказ, кажа камунікат, адразу падважыў магчымасьць паразуменьня, бо-ж — за вольны ўвоз у Польшчу нямецкіх тавараў — Польшча не атрымала-б ад Нямеччыны ніякай „кампэнсаты“ (раўнаважніка), які-б дазволіў краю выраўнаваць страты для гандлёвага балянсу краю, — з прычыны дапушчэньня на польскі рынак масы нямецкіх фабрычных тавараў.

Лягічным вывадам з гэтага і зьявіўся перарыў перагавораў, — да часу, калі нямецкі ўрад займе ў споры канчальнае становішча...

Такім чынам, паводле думкі нямецкай дэлегацыі — польска-нямецкі трактат даваў-бы нямецкай прамысловасьці ўсе магчымасьці поўнага апанаваньня польскага рынку, а адначасна зачыняў-бы фактычна (абмяжоўваючы іх у азначаных нямецкіх інтарэсах) нямецкі рынак для тых прадуктаў польскага вывазу, якія зьяўляюцца найважнейшымі „пазіцыямі“ гандлёвага балянсу Польшчы. Інакш кажучы, Нямеччына мае намер накінуць Польшчы такі гандлёвы трактат, які — ня толькі быў-бы аднабока—карысны для Нямеччыны, але проста руйнаваў-бы загранічны гандаль Польшчы, падкопваючы яе краёвую прадукцыю, а потым — і яе валюту...

Польская прэса дадае да гэтага камунікату, што новы канфлікт паміж Нямеччынай і Польшчай мае сваё жарало выключна ў гэтым чыста гаспадарчым споры — бо-ж усе супярэчнасьці так зв. „палітычнага“ характару амаль не цалком узгоднены(?) працай у Юрыдычнай Камісіі. Ці — гэта значыць, што ў-ва ўсіх гэтых справах польскі ўрад уступіў ізноў. Бо-ж, як ведама, нямецкі ўрад рашуча заявіў, што такія свае даманьні, як, напр. вольнага насяленьня нямецкіх купцоў на прыгранічным абшары польскай тэрыторыі ён лічыць прадуступным варункам для ўсялякага гандлёвага трактату!... Калі гэта так, дык і гэта ўказала-б, як далёка пайшла ўступлівасьць польскага ўраду — на карысьць Нямеччыны.

Калі польска-нямецкі спор абмяжаваўся запраўды толькі абшарам чыста гаспадарчым, тады — ясна, што нямецкай дэлегацыі, а значыць і нямецкаму ўраду, дыктуюць сваю волю нямецкія зямляўласьнікі, асабліва-ж — прускія абшарнікікі, „сацыялістычнаму“ ўраду — цяпер — яшчэ больш уладна, як папярэдняму—нацыяналістычнаму!...

Сам старшыня нямецкай дэлегацыі д-р Гэрмэс — ёсьць адначасна старшынёй нямецкіх сялянска-кулацкіх саюзаў,—падобных да пястоўскіх у Польшчы,—якія, як сільныя прадуцэнты сельска-гаспадарчых прадуктаў, асабліва—гадоўлі жывёлы (рагаціны і сьвіньняў) цесна зьвязаны эканамічна і палітычна з буйнейшымі абшарнікамі-нацыяналістамі (як і польскія „вітасавы кулакі“). Такім чынам, чыста гаспадарчы зьмест разрыву польска-нямецкіх перагавораў — у перамозе нямецкіх аграрыяў, якія баяцца канкурэнцыі таннага польскага мяса ўсялякіх гатункаў, якая-б вельмі значна зьбіла цэны на гэтыя прадукты ў Нямеччыне. Ці „сацыялістычны“ нямецкі ўрад запраўды пойдзе цалком у гэтым пад каманду аграрыяў, аддаўшы ім на луп шырокія масы працоўнага мясцовага спажыўца, абмяжаваны бюджэт якога заўсёды — яшчэ з часоў Бісмарка — традыцыйна бараніла нямецкая сацыял-дэмакратыя, гэта — вельмі сумліўна. І запраўды апошняя вестка кажа, быццам Гэрмэс ужо зьмешчаны са становішча старшыні дэлегацыі, а на яго мейсца назначаны віцэ-міністар ральніцтва д-р Поссэ. Але, з другога боку, што гэта зьмена азначае рашучы паварот нямецкага ўраду ў напрамку паразуменьня з Польшчай, таксама сумліўна: залішне вострa выступіў нямецкі ўрад у справе перарыву перагавораў—у сваім камунікаце праз Агенцтва Вольфа!

—•—

Ізноў—разглядзімо справу бліжэй. Польскія газэты абураюцца на тое, што „прапазіцыі, якія ставіць Польшчы нямецкая дэлегацыя, ня ёсьць прапазіцыі паміж двума вольнымі і незалежнымі народамі—контрагентамі: гэта хутчэй варункі, дыктаваныя пераможцам пераможанаму“.

Мы ў агульным нарысе высьветлілі раней агульныя прычыны і варункі такога палажэньня справы. Нямецкая прамысловасьць, німала не пацярпеўшая ад вайны, цяпер адбудавалася, як ніякая іншая ў Эўропе. Маючыя найлепшыя, удасканаленыя машыны, немцы могуць заліць Польшчу значна танейшымі, а таксама значна лепшымі таварамі. Дык вольны доступ іх на польскі рынак, чаго якраз трэбуюць немцы, дый яшчэ—з найменшымі мытамі — запраўды-ж азначаў-бы амаль не канец польскай прамысловасьці.

Але адначасна немцы—за час гаспадарчай вайны з Польшчай—шмат зрабілі ў галіне самавыстарчальнасьці ў справе выжыўленьня краёвымі сельска-гаспадарчымі прадуктамі!... Дык ламаць усе тое, што зроблена—з вялікім накладам капіталу—за апошнія 3 гады для падняцьця сельскай гаспадаркі—дзеля паразуменьня з Польшчай — Нямеччына ня мае гвалтоўнай патрэбы. Уся справа ў тым і зьмяшчаецца, што Нямеччына можа чакаць шмат часу, ня церпячы так страшэнна, як Польшча ад зацягнуўшайся гаспадарчай вайны...

Лічбы ізноў пакажуць нам, наколькі карысьнейшае ў гаспадарчым канфлікце становішча мае Нямеччына ў параўнаньні з Польшчай.

Паводле аблічэньняў нямецкай статыстыкі—вартасьць польска-нямецкага таварнага абароту—за апошнія 5 гадоў—выглядала ў такіх лічбах:

| | Нямецк. ўвоз з Польшчы ў мільён. марак | Нямецк. вываз у Польшчу ў мільён. марак |
|---|---|---|
| ў 1923 | **488.1** | **396.2** |
| „ 1924 | 456.6 | 399.8 |
| „ 1925 | 457.7 | 423.3 |
| „ 1926 | 305.0 | 261.0 |
| „ 1927 | **366.8** | **432.0** |

З гэтага відаць, што нямецкі ўвоз тавараў з Польшчы перад гаспадарчай вайной быў значна вышэйшы ад цяперашняга. Такім чынам скуткі гаспадарчай вайны з немцамі для Польшчы — вельмі дакладлівыя: Польшча ўсьцяж значна траціць з прычыны зачыненьня для яе нямецкага рынку.

Што-ж датычыць нямецкага вывазу ў Польшчу, дык ён — па часовым — на адзін толькі (1926) год!...—рэзкім спадку — цяпер ужо—ня толькі ня зьменшыўся ў параўнаньні з тым, якім ён быў перад гаспадарчай вайной, але навет значна ўзрос!... Гэта значыць, што ніякіх скуткаў гаспадарчай вайны з Польшчай Нямеччына быццам і не адчувае! А ў кожным разе—Нямеччына можа спакойна чакаць далейшай ўступлівасьці з боку Польшчы: — Нямеччына траціць толькі на тым, што яе вываз у Польшчы залішне

